Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.






| | | |
|---|---|---|
| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 15 КАСТРЫЧНІК. 1926 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот. „ паўгоду 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт. |



# Нічога не зьмянілася, дый ня зьменіцца...




**СЕЛЯНІН-БЕЛАРУС**: Сойм і Урад ужо больш месяца важыць нашы мільёны, дый цягаюцца сабе за чубы; хто пераможа невядома, а нам сялянам „пакуль сонца ўзыйдзе, — раса вочы выесьць“.



# У СТАРОЙ ВІЛЬНІ

О, Вільня, крывіцкая Мэка!
Зальле цябе крывіцкі рух...
*У. Жылка.*

Вільня, Вільня — чараўніца,
Гэдыміна слава,
Колькі госьцяў у званіцах
Ты перапрымала.

Ягелёнаўскай кароны
Ты краса і пыха...
І літоўскія загоны,
Й Кракаў нёс табе паклоны...
Частавала ўсіх пад звоны
З шумнага кіліха.

З пылам любячага сына
К мацярыным грудзям —
Доктар ўсіх навук — Скарына
З-за граніцы нёс навіны
Паспалітым людзям.

Потым Вільня - чараўніца,
Як начная дзева,
Прадавалась чужаніцам
Управа і налева.

Дзе насіўся дух Скарыны —
У часы прымусу,
Стала бруха Кацярыны
Моладзі спакусай.

---

О, Вільня, вялікая вёска,
Уся ў калдобіны пабіта...
На месцы толькі Матка Боска
Й няшчасны цень ізраеліта.

Ды разам шабля дарагая
І з блескам выстаўлены бот
Са смакам тут аберегае
Глыбокіх сьметнікаў смурод.

Нішто ня рушыць супакою
Сумлёных тых вартаўнікоў...
І лашчыць музыка з пакояў
І сон ліе з усіх бакоў.

І сьняць аб дзіўным, сьветлым раі,
Дзе херубінамі яны,
Дзе жвава толькі сонца грае
Чароўнай, яснае весны.

---

Што за дзіўное прабуджэньне?
Каб ты прапала — ці ня здань?
Што гэта тут за ажыўленьне?
Нібы над сьметнікам туман...

---

Устаюць, ўстаюць нібы жывыя
І гоман робіцца ямчэй...
І дзе зьліваліся памыі
Грамада вырасла людзей.

---

Шум.. бура... трывога...
Разносіць гук пажарны рог...
Нясецца скарга аж да Бога
І незадушаны уздох...

І сонца косамі шыбае,
І вочы сьлепіць у гасьцей...
Старая Вільня зноў вітае
Сваіх абуджаных дзяцей.

**І. Ладанчук.**






# Лепей было, лепей было не хадзіць!...

*(Маленькі фэльетон).*

— Ого, ў нас толеранцыя! А канстытуцыя!! Дзе вы бачылі на сьвеце настолькі лібэральную, настолькі радыкальную канстытуцыю, як у нас?! Меншасьці ёю не нацешацца, — ня жыцьцё, а рай! Вы пайдзеце запытайцеся любога беларуса, ці украінца, дык той нахваліцца ня можа нашымі парадкамі, — гэтакімі словамі выхваляўся польскі журналісты перад загранічным дыплёматам.

— Але-ж на вас меншасьці скардзяцца, што вы ім школ не даеце.

— О, гэта бальшавіцка-літоўска-нямецкая інтрыга! Мы гэтак дбаем аб школах, што ў нас міністры асьветы ня п'юць, не ядуць, ня сьпяць, а ўсё аб школах думаюць, затое гэтак хутка старэюць і амаль ня штодня ідуць у адстаўку.

— А колькі, напрыклад, вы маеце беларускіх школаў?

— Гм... колькі?! Затрудняюся назваць лічбу. У нас, бачыце, ёсьць спэцыяльны *„дзял статыстычны“*, які статыстыку школаў вядзе і яшчэ, як відаць, ня скончыў свае працы па падлічэньню беларускіх школаў.

— А чаму беларуская прэса вядзе вострую кампанію процiў вашай школьнай палітыкі?

— Якая там прэса?! Гэта проста ня прэса, а камуністычныя лістоўкі. Вось у нас ёсьць праўдзівая беларуская прэса—гэта „Беларускае Слова“, якое нашу палітыку аж пад неба падносіць.

Ого! ў нас толеранцыя, як нідзе ў сьвеце!

Дзе на сьвеце ёсьць „языковыя уставы“?! а ў нас — ёсьць!

Дзе на сьвеце ёсьць „утраквістычныя“ (двох'язычныя) школы?! а ў нас ёсьць!

Дзе на сьвеце гэтак дбаюць аб культуры меншасьцяў, як у нас? — Нашы вайсковыя асаднікі нясуць прамені заходняе цывілізацыі ў глухія беларускія і украінскія вёскі...

Ого, ў нас!..

Але загранічны дыплёмат ужо ня слухаў і, зьвесіўшы лысую галаву, соладка спаў пад сьпевы польскага салаўя.

. . . . . . . . . . . . . . .

Яшчэ ня гэтак даўно было, а здаецца, што ўжо вельмі даўно, бо ўжо некалькі разоў урад падаваўся ў адстаўку і некалькі разоў зноў садзіўся на тыя самыя міністэрскія фотэлі. Яшчэ ня так даўно сойм і ўрад грызьліся паміж сабой, як кот з сабакай, але пакуль што ўсё наладзілася і jakoś będzie.

Было гэта за цяжкай памяці б. міністра асьветы п. Суйкоўскага, калі прэм'ерам быў „спэц“ *„моральнасанацыйных“* кабінэтаў п. Бартэль.

„Маланцы“ ўдалося падслухаць, як паміж п. міністрам асьветы і двама беларускімі дэлегатамі адбылася больш-менш наступная размова:

— Панове мусяць добра ведаць, што я, як польскі міністар, ніколі, нікому, нічога ніякага не дакляруюю.

— Але-ж што будзе з нашым мэморыялам? — спытаўся зьдзіўлены дэлегат.

— Панове наставілі столькі пунктаў у сваім мэморыяле, што падумаць страх. Сам Бог Майсею даў толькі дзесяць запаведзяў, а Вільсон у Вэрсалі толькі чатырнаццаць сваіх пунктаў, а тут (о, zgrozo!) аж цэлых семнаццаць стаіць, — падумаў міністар.

— Што-ж мэморыял, як мэморыял, — дадаў ён голасна. Мэморыял-жа есьці ня просіць, — хай паляжыць; не адзін-жа ён у мяне, дачакаецца свае чаргі... а тагды паглядзім.

— Але-ж, пане міністар, мы павінны ведаць у конкрэтнай форме, ці ўрад маніцца ў сёлеташнім годзе закладаць беларускія школы, ці не?

— *Панове! Мувен-жэ попольску, жэ я ніц, а ніц не обецуен!..*

— Дык хто-ж тады можа абяцаць, як ня пан міністар? — спытаўся адзін з дэлегатаў.

— Хай, панове, сходзяць да прэм'ера.

— А што пан міністар ад сябе можа дакляраваць?

— Пакуль што нічога, а што далей будзе, ручацца не магу, — неяк загадкова адказаў міністар, — як-бы чуў сваю блізкую *„дымісію“* *)

Дэлегаты, аднак, наступалі на міністра, як салдаты на няпрыступную крэпасьць і ўсё катэгорычней дамагаліся конкрэтнага адказу.

Міністар. неахвотна прачытаў мэморыял і стаў крытыкаваць паасобныя пункты.

— *Натыхмястовэй, натыхмястовэй* зьмены... Ого! нічога-ж у нас гэтак хутка ня робіцца. Вы тут жадаеце дапушчэньня вашых абітур'ентаў на *вышшэ учэльне*, а далей адчыненьня ўрадовых вучыцельскіх сэмінарыяў і гадавых пэдагогічных курсаў, — нібы *слушнэ жондане*, нашто столькі беларускай інтэлігэнцыі? — бо ўсё роўна пасьля безработнымі будуць!

Наш *жонд* цяпер ашчаднасьцямі займаецца, а вы тут субсыдыяў на гімназіі і курсы хочаце. Тшэба, панове, церпліве чэкаць, — наш жонд о вас дба,

— Але-ж мы ўжо сёмы год. як чакаем...

— *Ніц не шкодзі, тшэба ешчэ чэкаць.*

— Але-ж дакуль?

— Як дакуль?! *Ешчэ раз по-*

*) Дымісыя — звальненьне, адстаўка,

*вядам паном, жэ я ніц, а ніц не обецуен!* Трэба вам ісьці да прэм'ера, а я *ніц комплетне не обецуен!..*

Яшчэ шмат гаварыў міністар аб канцэсіях, аб *„єнзыковых уставах“*, аб віленскім куратары, аб бальшавіках, камуністых і ўсё сваё: *не обецуен, не обецуен!..*

— Што тут доўга гаварыць,— шапнуў дэлегат дэлегату: „адзін у плот, другі ў гарод“.

— Ну і як, пане міністар, ці на рэалізацыю нашых слушных жаданьняў можна будзе чаго ў хуткім часе спадзявацца?— спытаўся ўстаючы з крэсла другі дэлегат.

— *Ніц не обецуен, не обецуен і ешчэ раз ніц не обецуен!*—шаптаў на разьвітаньне п. міністар.

— Сьмешныя людзі, — думаюць, калі я міністар, дык я ўсё ім зрабіць магу, ды я без *„дзядка“* нават і п... піснуць не магу,— неяк ужо злосна гаварыў п. міністар, застаўшыся адзін у сваім кабінэце.

. . . . . . . . . . . . . . .

Праз гадзіну наша дэлегацыя была ўжо на аудыенцыі ў п. прэм'ера.

Прэм'ер быў, відаць, вельмі панэрвованы, што ў гэтакі „potrzebny na ważniejsze sprawy czas“ лезуць яму ў вочы з нейкімі там беларускімі справамі.

Кінуў адным вокам на мэморыял і аж затросься са злосьці:

— То да міністра асьветы трэба.

— А ён да вас пасылае,— адказалі ў адзін голас дэлегаты.

— Ну і што-ж вам міністар казаў? — запытаўся прэм'ер.

— Казаў, што нічога абяцаць ня можа...

— *І я рувнеж ніц обецаць не могэн!..*

Дэлегаты сьціснулі плечамі.

Прэм'ер задаў яшчэ некалькі пытаньняў, дзесяць разоў сьціскаў плячыма, дваццаць разоў разводзіў рукамі і ўсё гаварыў сваё адно:

— *Не обецуен... не обецуен... не обецуен!..*

— Шкода вось было таптаць чаравікі, абіваючы міністэрскія парогі, — перашапнуліся дэлегаты, безнадзейна разьвялі рукамі і вышлі з прэм'ераўскага кабінэту, а... за імі сярдзіта зачыніліся дзьверы.

Па дарозе яны спаткалі літоўскую і жыдоўскую дэлегацыі з Вільні, якія з абурэньнем расказвалі, як п. міністар асьветы „nie raczył“ нават іх прыняць.

Быў мокры, сьцюдзёны васеньні дзень.

Голад прыпомніў нашым дэлегатам, што яны яшчэ з раніцы нічога ня елі.

У аднэй з варшаўскіх рэстарацыяў, куды зайшлі нашыя дэлегаты, было шумна, цесна, дымна, а музыка ў гэты час іграла:

*„Лепей было, лепей было не хадзіць...“*

А за другім сталом нехта ў чорным — салодкім фальцэцікам напяваў драмаўшаму загранічнаму дыплёмату аб вялікасьці польскае толеранцыі...

**Янка Маланка.**

# У Вільні.



Магістрат капае ямы,
Устаўляе з дрэва рамы,
Ўсьцяж капае, рассыпае,
Насыпае, засыпае,
Ўсё капае ды капае,
Але сэнсу ў тым ня мае.

Людзі ўсьцяж ламаюць ногі,
Скачуць праз тыя парогі,
І няма на гэта рады,
Бо усюды ямы-здрады
Зноў капаюць, засыпаюць,
Насыпаюць, рассыпаюць,
Ўсё капаюць ды капаюць.

Глянь на гэтыя акопы:
Гэта-ж толькі „szopki-szopy“!
Ані сэнсу, ані ладу,
Ані ладу, ані складу...
Калі-ж пойдзе рад-нярад
У адстаўку Магістрат?

**Юм.**

## ПАСОЛЬСКАЯ НЕДАТЫКАЛЬНАСЬЦЬ.

— Слухай, сябра! Хіба ты ня бачыш, што твая жонка з паслом Х занадта ўжо таго?..

— Ды як ня бачу! Бачу, што бяз хрэсьбін не абойдзешся, але што ты з ім зробіш, калі ён асоба недатыкальная.

С. Калінець.

# Не дапытаўся.

Пры дарозе каля плоту
Сьцёпачка малы
Забаўляўся, аж надходзіць
Сэквэстар стары:

—„Gdzie tu mieszka Jan Drantawy?“
Хлопца запытаў.
—„Каля Сёмкі Палатайкі!“—
Хлопец адказаў.

— „A gdzie Siomka Połatajko?“
Зноў пытае пан.
— „Каля Янкі Дрантавога!“—
Адказаў Сьцяпан.

— „Gdzie mieszkają oni oba? —
Просіць — адкажы.
— „Ды яны сабе суседзі —
Мяжа ля мяжы!“

З укр. *Я. М.*

# Палягчэлі.

— Што-ж тут дзіўнага, што ты палягчэў на некалькі хунтаў! Вось наш пан дык у чатыры разы палягчэў.

— Ну?

— Хіба ня бачыш! Раней на чацьвярыку яго вазілі, а цяпер дык зусім лёгка і адзін конь яго вязець.

# К падзеям у Кітайшчыне.



**Кітайскі салдат да ангельскага капіталістага:**

Прэч, агіда, прэч, абрыда,
Каб з вачэй маіх ты зьнік!
Пакаштуеш цяпер, гніда,
Як чырвоны сільны штык.

# Прыезд лідэра Сялянскага Саюзу ў Вільню.

Запятушыўся, закруціўся,
Нібы мяцеліца зімой
Саюз Сялянскі. Як упіўся,
Зламаўшы голаву, пусьціўся
На бой з працоўнай Грамадой.

Але з Саюзам стала дзіва,
Радзіўся ён без галавы —
Пашла сабе папарам „Ніва“
Няма нічога й з барацьбы.

Але, пажэгнаны ксяндзамі,
У бога верыў наш Саюз —
Курыў кадзіла прад панамі...
Ды ўцяміць выклікаў прымус.

Тут нехта ўздумаў— за граніцай
Гатовы лідэр—Божы дар —
Ён паліе жыцьцё „Крыніцай“,
І з „Нівы“ выведзе папар.

---

На Беларусі б'юць трывогу
Усе хрышчоныя й Сельком —
То лідэр выбраўся ў дарогу
Цераз граніцы ўсе цішком.

Ў бажніцы роднай Мікалая
Да бога горняга „наўзвысь“
Народ літаньне адпраўляе,
Як „Незалежнасьці“ калісь.

І бог праняўся іх малітвай
З-за ўсіх крывавых перашкод—
Перад рашучай слаўнай бітвай
Патрэскаў паліцэйскі лёд.

На беларускім небасхіле
Зьявілась новая зара,
Што найвялікшая па сіле —
Ці ня з сузорыя Вала?

---

Па Вільні лідэр пахаджае,
Наперад вольле, як індык
І мове роднай навучае,
Як у салдатах ён прывык.

І коле ўправа і налева,
Хто пападзецца пад руку,
Як гадунец пустога хлева
Ўраз апынуўшысь на бруку.

І ненавісную Грамаду
Здаецца вось цалком-бы зьеў,
Ды шкода—зубы не да ладу...
Бо тут дарэмны божы гнеў.

Ў сваім бясьсільлі змардаваны,
Уціснуў голаў, як ліня,
Ды толькі „Ніву“ зьбіў у раны,
Як асядланага каня.

А справа зноў сядзіць на мелі,
Ані назад, ні напярод —
І ўсе адразу зразумелі,
Што лідэр быў—ну, проста бот.

І надалей засталась дзіва —
Саюз без галавы усё
Як быў, застаўся. І цярпліва
Канчае марнае жыцьцё.

*Г. К.*

# Вось дзіва!



**Заграні́чны лётчык, пралятаючы над Польшчай:**

— Вось дзіва, якая гэта культурная старонка! у ёй нават сяляне астраноміяй займаюцца.

*Зьнізу:* — Вось, лаўкач! глядзеце, хлопцы, як ён спрытна ў адзін момант з двох бутэлек жлокча.

# Слоўнік для чытачоў „Сялянскай Нівы“.

Дзеля таго, што некаторыя чытачы „Сялянскай Нівы“ і далей зьвяртаюцца да нас з просьбамі вытлумачыць розныя незразумелыя словы, якімі густа перасыпаецца гэтая газэта, падаём тут працяг нашага маланачнага слоўніка:

**Ворган** — слова, невядома скуль занесенае на шпальты „Сял. Нівы“. Паходзіць мусі ад расейскага — *варганить.*

**Апрычоны** — можна ўжываць толькі крыху зьехаўшы з глузду.

**Зацемка** — адна з выдумак, каб мужык трудней мог зразумець, што яму кажуць вучоныя.

**Істраўня** — контрабандай занесена з Істрыі праз зялёныя граніцы.

**Помнець** — дасюль было—*помніць*, цяпер мусі будзе так як *сядзець, глядзець.* Трэба спадзявацца, што за ім пайдуць новыя формы: *пець* замест—*піць, курэць* замест — *курыць, насець* замест *насіць, касець*—касіць і інш.

**Зацны** — шляхоцкага паходжаньня, ўжываецца толькі ў глухіх засьценках маладымі дзяўчатамі, так як *бэмб* замест *боб, ронд* замест *урад* і інш.

**Жадны** — таго самага паходжаньня, замяняе сабою беларускае слова *ніякі.*

**Спадар** — той хто ўпаў дый моцна цемем стукнуўся.

# Сьвежыя навіны.

◆ Корэспондэнты „Народнай Справы“ пачалі рабіць новы адміністрацыйны падзел у некаторых ваяводзтвах. Гэтак, напрыклад, у № 23 ужо абвешчана м. Саколка, Горадзенскага (?) павету і м-ка Ялоўка, Ялоўскага павету (?). Раней былі: першае места Сакольскага павету, а другое Ваўкавыскага. Карэктар газэты гэткі адміністрацыйны падзел апробаваў.

◆ Кажуць што Белар. Навук. Т-ва маніцца паставіць зажыцьця памятнік нашаму мастаку Язэпу Драздовічу, як прызнаньне за яго вялікай вартасьці „Навуковыя досьледы“ ў Палесьсі.

Проекты памятніка прыймае рэдакцыя „Маланкі“.

◆ Кажуць, што чарговы № 2 „Студэнскай Думкі“ выйдзе аж у сьнежні 1934 году, у дзень дзесятых угодкаў яе залажэньня.

◆ Кажуць, што аўтор жартаў, друкованых у „Сялянскай Ніве“, патрабуе каваля накаваць сабе язык, каб быў крыху гладзейшы.

◆ Кажуць, што нядаўна адкрытая „Беларуская Хатка“ мае ў хуткім часе называцца „Беларуская Будка“ з тэй прычыны, што ўсе надзеі адтрымаць ад „таты“ на „чаюшку“ разьвеяліся, як лёгкі туман.

◆ Кажуць, што ў готэлі Сакалоўскага ў б. кватэры „Тымчасовэй Рады“ заснавалася „Таварыства Апекі над кантрольнымі жанчынамі“.

◆ Кажуць, што вядомы беларускі эс-эр Мамонька з увагі на сваю опозыцыйнасьць да ўсяго неэсэраўскага, дзеля ўсякай эвэнтуальнасьці, бярэ штодзенна ў працягу 10-ех гадзін лекцыі лёгкай атлетыкі і боксу.

◆ Кажуць, што „świadectwa dojrzałości“ (матура) аказваюцца яшчэ не dojrzałemi (недасьпелымі), калі матурысты — тка паступаюць у Віленскі Унівэрсытэт С. Б., асабліва калі яны беларусы і праваслаўнай рэлігіі.

## СУЧАСНЫ ВАНЬКА-ВСТАНЬКА



**Хто гэта?**

— А ну-ка, „Ванька—встань-ка“!

# Трыумф „Грамады“.




Веюць ветры, веюць ў Польшчы
Аж сяляне гнуцца.
Пруцца з „Крэсаў“ пэпэсы
Аж кудлы трасуцца.
Прад сялянскай „Грамадою“
Усе уцякаюць
І „эндэкі“ і „хадэкі“
Пруць, як сілаў маюць,
А за імі і „пястоўды“
Назад павярнулі, —
Былі ласы на кілбасы...
Ды часы мінулі.
Зьнiклі, зьнiклі „вызваленцы“,
Як раса на сонцы:
Досыць вёску баламуціць
У нашай старонцы.
Ня прывабіш беларуса
Да панскай прынады,
З „сельсаюзам“ мы, як з гузам,
Дадзём сабе рады.
Веюць ветры, веюць буйна,
Сяляне-ж ня гнуцца,—
Між сабою грамадаю
За розум бяруцца.
Хто сялянін, хто рабочы —
Братайся, еднайся!
Гэй! бяднота, гэй, галота
Ў „Грамаду“ злучайся!

**Я. Маланка.**

# Наша доля.

Бі мацней, ламай жалеза!
Гэй браткі сюды, сюды,
Ўсе ад бедаў, нэндзы, гора,
Ўсе ад бруду, ад нуды.
Бачце, выгадаў вось дзіва,
Ледзь-ледзь здолеў прачытаць,
Гэта-ж доля — наша доля —
Адно як яе дастаць?
Як разьбіць, бач скрынка з сталі,
Трэба моцных малаткоў,
Хіба клікнуць на падмогу
Нашых брацьцяў ад станкоў.
Многа шуму нарабіўшы,
Быццам гром разьнёсься зык:
Ці-ж то праўда?—чуў каханы:
Долю выграў мужык.
Шмат панкоў і здрайцаў іншых
Пазьбіраўшыся глядзяць,
Кожны радзіць—хоча здрадзіць,
Кожны вучыць, як дастаць.
— Гэй браткі, мяне слухайце!
— Я таксама з мужыкоў,
Свой саюз вы закладайце,
Што тых клікаць ад станкоў?
Мы самы здабудзем долю —
Ўсе ў „Сялянскі наш Саюз“
Штосьць ня вераць гарамыкі,
Глядзяць коса, круцяць вус.
— Дзетачкі... пачаў, як трэба,
Таўстапузы поп стары:
Вам збаўленьне прыдзе з неба,
Трэба-ж ждаці да пары.
Хлопцы, кажа пан пузаты —
Сам ад страху ўвесь дрыжыць—
Сыпце лепш вы ўсе да хаты,
Калі хоча хто йшчэ жыць.

**Крапіва.**

# У сушні.

За паклонамі б’юць церніцы паклон,
За ручайкаю ручайку грызуць лён,
А з-пад церніцаў кастрыца так, як сьнег,
Трэплюць бабы языкамі, дык аж сьмех,
Перабралі ўжо ўсю вёску тут ня раз,
Як пабіўся сёньня з жонкаю Тарас,
Як аладак дрэнных Тэкля напякла,
Як учора Манька ўпрочкі уцякла,
Як нядобра накладаюць вось налог,
Як на ўсіх людзей загневаўся ўжо бог,
Бо і людзі ўжо забылі пра яго,
Як Марыля загрубела й ад каго,
Як Тадора шмат нацёрла ўчора льну
І як хутка абвесьцяць нам вайну...
Так у сушні ў нас вядзецца век-вяком,
Там найболей бабы трэплюць языком,
І пакуль натрэ дзесятак які льну,
Дык абрэша дзесяць раз адна адну
І сьвякруха, і нявестка, і кума,
Хоць ня лепшая ні капелькі й сама.




— Можа дасьцё безработным па аднаму „службоваму“ напавер?
— *Зрэдукованi?*
— Але: быўшыя сябры зрэдукованай паўлюкевічаўскай рады.

Бо, дастаўшы добра ў пяты;
Пападзеце вы туды,
Скуль ня вернешся да хаты,
Не захочаш „Грамады“.
Мне ня верыце — спытайце
„Павлючка“ — ён ваш якраз —
Бачце бедны „лемянтуе“,
Гэтак шкода яму вас.
Тут ня вытрымаў Мікіта,
Калі гляне — закрычыць:
— Знаем панскага найміта,
Што нас хоча задушыць!
Непатрэбны вашы „Рады“,
Досыць голаў нам чмуціць!
Проч з дарогі юды-гады!
Мы бяз вас здалеем жыць.
— Гэй хадзеце жыва, брацьця,
Рабачаі-гаруны;
Не застрашаць у грамадзе
Ні паны, ні пяруны!
Друзгачы, ламай жалеза —
Бі мацней мужык-каваль.
Сьветлу долю хутка ўбачыш...
Паддаецца-гнецца сталь!

**Міхась Васілёк.**

# За маё жыта, дый мяне пабіта.




**АЛЯХНОВІЧ ПРЭ „НАЧАЛЬСТВА“:**

— Хоць ты і мой быўшы прэзэс, але мне ўжо болей непатрэны, бо я ўжо залажыў новую „шопку“ і буду там, пакуль даюць „авансік“.

# З цыклю „быўшыя людзі“.




— А вы, дзядзька Тодар, з намі ці з „доктарам“?

— Ведама, што з вамі! Куды ўсе, там і я. Я-ж стары, заслужаны беларус... Дык-жа ведаеш, цюцік, Аляхновіч даже п'есу с меня напісаў, значыцца я не какой-нібудь таўкач, а фігура!

— А нашто-ж вы напісалі пісьмо ў „Беларускае Слова“ аб паўнамоччах, дадзеных Радай Павлюкевічу, дзе няма ані слова праўды?

— Але-ж, цюцік мой! Гэта ня я пісаў, а пісаў Павлюкевіч! Я толькі падпісаў ужо гатовае... За гэта ён абяцаў мне 30 злотых. Панімаеш-лі, цюцік! я стары чалавек, усё маё імущество тяжелым трудом дабытае осталось там, у бальшавікоў, нужно-ж і мне как-нібудь жить... А тут такая аказія: падпішы — і 30 залатых на стол! Але нужно сказать, што Павлюкевіч честный человек: деньгі мне выплаціў сполна, ня так, як іншым... Але гэта нічога, цюцік! Толькі выбярэце мяне скарбнікам, ну дык мы тады ўжо Павлюкевіча заляпісуем! Хэ-хэ-хэ! Я новае тады пісьмо напішу, для вас гэта зраблю дешевей: за 25 злотых, але грошы на стол, цюцік!...

## Няма рады.

— Паночку, што я маю рабіць са сваім сынам?

Гэтакі няўдача: што ня ступіць, то збрэша!

— Гм, няма рады! Ці ня ўчыўся ён у пана Обста?

## Прагаварыўся.

Спавядаўся адзін чалавек у манаха і ў канцы споведзі прызнаўся, што цалаваў чужую жонку, але рабіў гэта з мусу, бо нібы гэта было патрэбна, як лек для вочаў...

А манах перабівае:

— Ня вер, васпан, — каб гэта праўда была, дык я і праз мурбы бачыў!

## Не, гэта ня мой!

Ішоў селянін дый знайшоў торбу з хлебам. Па дарозе даганяе яго асаднік і пытаецца:

— Пане, пане! цы-сь пан не зналяз ворэк — ворэцэк, а там хлеба кавалэцэк і посьвістакем завёнзаны?

— Не, знайшоў толькі торбу пугай завязаную, а ў ёй хлеб.

— *Ой, не — гэта не мое!*

**М.**

**АЛЯКСАНДАР БЛОК**

# Дванаццаць

Пераклаў **І. Гудок.**

**Ад Рэдакцыі:** Поэма „Двѣнадцать“ А. Блока зразу пасьля свайго выхаду ў сьвет выклікала вялікі шум. Усюды яна завучвалася на памяць. З крытыкаў — адны адкідалі яе, як сатыру на старую Расею, прадстаўленую простытуткай; другія бачылі ў ёй сатыру на рэвалюцыю, іншыя з натхненьнем прыймалі яе, як з таго, гэтак і з іншага пагляду, а дзехто ўгледзеў у ёй выяўленьне сынтэзу вялікарускай душы, зьмяшчаючай разам і рэвалюцыйны патос і інстынктыўную рэлігійнасьць.

Так, ці інакш поэма стала шэдэўрам расейскай літэратуры апошняга часу і здабыла сабе належнае месца ў літэратуры сусьветнай.

З-за браку суадказнай беларускай часопісі, рэдакцыя гасьцінна ўдзяляе месца на шпальтах „Маланкі“ поэме ў беларускім перакладзе, тым больш, што сатырычны элемэнт у адносінах да старога выступае вельмі рэльефна і што чытачу „Маланкі“ абразы поэмы ў большасьці вельмі памятныя.

У хуткім часе поэма мае выйсьці асобнаю кніжкаю і ў дапоўненым відзе.

1.

Чорны вечар.
Белы сьнег.
Вецер, вецер!
Чалавека ганяе ў бег.

Вецер, вецер —
На ўсім божым сьвеце.
Круціць, вее вецер
Белы сьняжок.
Пад сьняжком — лядок.
Сьлізка, зьнямога —
Кожны ў бок
Скаўзае нябога.

Ад дому і да дому
Вяроўкі нацяг.
Там ды з надпісам сьцяг:
„Уся ўлада Ўстаноўчаму Сойму!“
Бабулька ў плачы, ў турбоце
Ня ўцяміць, што ў гэтай рабоце,
На што, нібы дыван
Такі вялізарны сьцяг?
Анучаў, анучаў зрабілі-б, мой пан,
А голыя ўсе проста жах.
Бабулька, як курыца,
Сяк-так перакулілася з калдоб.
— Ох, Матачка-Матуліца!
— Ох, бальшавікі зьвядуць у гроб!



Вецер-караньне!
Не адстае і мароз!
І буржуй на крыжаваньні
Затуліў каўнерам нос.
А гэта хто? З доўгімі косамі
Й славамі паўгалосымі:
— Эх, здраднікі!
Прапала Расія!
З пісьменных пан якісь —
Вітыя...
А вунь і з лахманамі
З-за гурбы бокам — стоп!...
Што невясёлы з намі,
Таварыш поп?
Помніш, як бывала,
Наперад пяліў брух
І крыжам ці мала
Быў ты ўсюды зух?
Вось пані ў каракулі
З другою напаткнулась:
— Ох, мы плакалі, плакалі...
Пасьлізнулась
І бах — расьцягнулась
Ай, ай!
Цягні, паднімай!
Вецер вясёлы
І злы, і рад,
Круціць падолы,
Дарожных косіць,
Камечыць, носіць
Вялікі сьцяг:
„Уся ўлада Устаноўчаму Сойму!“
Й галасы даносіць:



... І ў нас сабралася плойма...
... Да гэтага дома
... Абсудзілі —
Пастанавілі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

... Ідзём спаць...
Позны вечар.
Пусьцее вуліца.
Адзін бадзяга
Усё туліцца,
Ды сьвішча вецер...
Гэй, увага!
Падхадзі —
Пацалуемся...
Хлеба!
Што там?.. Глядзі!..
Адыйдзі!
Чорнае, чорнае неба
Крыўда, ах, варыцца ў гарце...
У сэрцы кіпіць...
Чорная крыўда, усё на карце...
Таварыш! Гэй, быць
На варце!

2.

Гуляе вецер, сьнег робіць зьдзек,
Ідзе дванаццаць чалавек.
Рамені стрэльбаў праз плячо,
Вачом ад блеску балячо,
Цыгарка, шапка нібы камяк
Бракуе катаржны мо' знак
Эх, што-ж? Бяз Хрыста!
Свабода, свабода,
Тра-та-та.

Сьцюдзена, таварышы, сьцюдзена,
— А Янка з Каськаю ў шынку...
— Ў панчосе керанькі ў скрутку!..
— А Янка стаў цяпер багат...
Быў Янка наш — а стаў салдат.
— Ну, Януш, ты такі, буржуй,
Маю папробуй, пацалуй!
Свабода, свабода,
Эх, эх, бяз Хрыста
Каська з Янкам ля кута —
Што, што ля кута?
Тра-та-та.

Кругом — агні, агні, агні,
А цераз плечы рамяні...
Равалюцыйны дзяржэце шаг!
Ня дрэмле вораг у сьцянах!
Таварыш, гэй стрэльбу дзяржы,
ня трусь
Смальнем, гэй, кулю ў сьвятую
Русь —
У кантовую,
У хацяную,
У таўстазадую!
Эх, эх, бяз Хрыста!

3.

Як пашлі ды хлопцы нашы
Ў чырван-гвардыі служыць,
Ў чырван-гвардыі служыць, —
Голаў буйную зложыць!
Эх, ты, гора-горкае,
Мілае жыцьцё!
Паліто з апоркаю,
Аўстрыйскае ружжо!

. . . . . . . . . . . . . . .

4.

Сьнег круціць, фурман крычыць,
Янка з Каськаю ляціць.
Электрычны-ж ліхтарык
На аглобельцы...
Ай, ай, упадзі!..
Ён у адзетку ды салдацкім
З нейкім выглядам вар'яцкім
Круціць, круціць чорны вус,
Ўверх пакратавае
Ды пажартавае...
Вось дык Янка—гэтта дуж!
Вось дык Янка—слова муж!
Каську-глунку абнімае
Загаваравае...
А яна задрала твар
І гарыць, гарыць, як жар...
Ах, ты, Кася, мая Кася...
Таўстамордзенькая...

5.

У цябе на шыі, Кася,
Ад нажа застаўся гак,
Пад грудзьмі таксама, Кася,
Не загоены пісак!
Эх, эх, пагуляй!
Ножкі—проста каравай!

Ізноў насустрач нясе ўгалёп
Фурман аж выпяліўшы лоб.
Стой! Стой! Андрэй, гэй, памагай!
Ты, Пётра, ззаду забягай!
Трах-тарарах-тах-тах-тах-тах!
І пыл да неба—проста жах!
Фурман ды з Янкай—драла даў...
Яшчэ страляй! Яшчэ прыбаў!
Трах-тарарах! Ты будзеш знаць,
Як з дзеўкаю чужой гуляць...

. . . . . . . . . . . . . . .

Уцёк, падлюга! Ну, пастой
Распраўлюсь заўтра я з табой!
А Каська дзе? Ды ня жыва!
Наскрозь прабіта галава!
Што? задаволена? Маўчыш?
Ляжы на сьнезе, ты, ляжы-ж...
Рэвалюцыйны дзяржэце шаг!
Ня дрэмле вораг у сьцянах!

7.

Ды ізноў ідуць дванаццаць,
Стрэльбы зноў цераз плячо.
Толькі беднаму забойцу
Штось у твары гарачо.
У радох не пасьпявае,
Семяніць ужо трушком,
Шыю хусткаю матае —
Толькі нешта ніпачом.
— Што, таварыш, невясёлы?
Што спалохаўся? Ага?!
— Што, Пятрук, разьвесіў полы?
Каські шкода, пустальга?
— Эх, сябэркі дарагія,
Гэту дзеўку я любіў,
Ночы п'яныя, даўгія
З ёю разам часта быў...
За мігучы блеск агнёвы
У ірдзяністых вачох,
З-за радзімачкі ружовай
Каля шыі на плячох,
Загубіў я, асіновы,
Эх, зьдзяржацца я ня мог!..
— Ну, й завёў шэйна-катрынку,
Ці ня баба ты, Пятрук?
Пэўне душу, як скарынку
Здумаў вывернуць? Ні гук:
Падраўняй, як трэба, сьпінку,
Будзь салдатам—нібы сук!
Захацеў мо' гэтта кія?
Будзем няньчыцца яшчэ?
Мо' часы цяпер такія?
Будуць шчэ і гарачэй!
І Пятрук замаруджае
Запасьпешаны свой шаг,
Галаву як-га раўняе
І вясёлы ў адзін мах
Эх, эх!
Ды пабавіцца ня грэх!
Гэй, замкайце этажы,
Сёньня будуць грабяжы!
Склепы насьцеж адмыкай —
Гэй, галота, гэй — гуляй!

8.

Ох, ты, гора-горкае!
Мука нудная,
Ты сьмяротная!
Эх, я сілачку
Пакашу, пакашу...
Эх, патылічку
Пачашу, пачашу...
Арбузенеткі
Палушчу, палушчу,
Ножык ценеткі
Ў ход пушчу, ды пушчу...

. . . . . . . . . . . . . . .

Выпʼю кровачку,
За зазнобачку,
Чарнабровачку.
Адпачываньне вечнае дай ёй, ты, Пане!
Сумна!

9.

Застыла места, анямела,
І з вежы неўскай ані гук,
Жандара месца схаладзела —
Гуляй бяз водкі, гэй, Пятрук!



Стаіць буржуй на крыжаваньні
І ў каўняры схаваўшы нос,
За ім, скруціўшыся дазваньня
Дрыжыць сабака за свой лёс.

10.

Разгулялася нягода,
Нягода, нягода!
Чалавек нібы калода
За чатыры за шагі!
Сьнег то віхрам замяло,
То да неба падняло..
— Ох, завея, мілы Пане!
— Пётра! кідай мудраваньне

. . . . . . . . . . . . . . .

Несьвядомы ты, як бачу,
Ты разваж сабе іначай —
Ці-ж то рукі ня ў крыві
Ды з-за Касінай любві?
— Шаг дзяржы рэвалюцыйны,
Вораг блізка ля хаціны!

11.

І ідуць дванаццаць усе бяз бога
У вялікі сьвет.
Не шкада нічога,
Нікамутку зьвет...
Стрэльбы ўперад іх стальныя —
Вораг хоць і ня відзён —
У завулачкі глухія,
Дзе мяцеліца, як сон.
Ды у гурбы сьнегавыя —
Страх нясуць... і страх і скон...
Ў вочы б'ецца
Чырван-сьцяг
Раздаецца
Зважны шаг
Вось прачнецца
Вораг — ах...
Завея ім шыбае ў вочы
Дні і ночы
Напралёт...

12.

... Ўсё ідуць паважным шагам...
— Хто яшчэ там? Гэй, выходзь!
Вецер то з чырвоным сьцягам
Разгуляўся самаходзь.
Перад вочамі калдоба.
Хто ў калдобіне? Выходзь!—
Гэта псіная асоба
Йдзе—кульгоць сабе, кульгоць!
Адвяжыся, шалудлівы,
Я штыком паказычу!

. . . . . . . . . . . . . . .

... Скаліць зубы—воўк галодны
Хвост убраў, не адстае...
Пёс галодны, пёс бязродны
— Эй, адклікнісь, хто ідзе?
—Хто чырвоным маша сьцягам?
— Цемра—хоць на воўка лезь!
Хто там ходзіць дробным шагам,
Захаваўшыся увесь?
Усё раўно цябе дастану
Лепш здавайся ты жыўцом!
Будзе дрэнна, эх, васпану—
Выхадзі— страляць пачнём.

Трах-тах-тах! І толькі рэха
Адклікаецца ў дамох
Ды завея доўгім сьмехам
Заліваецца ў сьнягох
Трах-тах-тах,
Трах-тах-тах...

Так ідуць паважным шагам.
Ззаду ў іх — галодны пёс,
Напярод — з крывавым сьцягам,
У цьме нявідны ні адкуль,
І захованы ад куль,
Усё ступою брыльлянцістай,
Панадсьнежнай, залацістай,
З рожаў белых, нібы сьлёз,
У вянку Ісус Хрыстос.



Крапіва.

## Калі церці, дык да сьмерці.

*З лячэбнай практыкі на вёсцы.*

I.

Дзіця аж з скуры лезе-плача,
Хварэе, беднае, няйначай;
Пакута беднаму дзіцятку,
А з ім пакутуе і матка:
Грудзей дае, па хаце носіць,
Каб даў здароўя, бога просіць;
Але і бог не памагае —
Дзіця змаглося, чуць зяхае.
Якраз Ганулька тут суседка
Прышла — „Як маешся, Альжбетка?
Чаго-ж бы твой хлапец так плакаў?
Зраклі, няйначай, небараку,
Бо ёсьць такі на сьвеце людзі —
Як гляне—ну, дабра ня будзе,
Як вось... Мікіта Галалобы —
Калі зіркне —чакай хваробы...
Дык ты вось рана на цямочку,
Падняўшы, ягадка, сарочку,
Сатры яго зараз тры разы—
Мінецца ліха ўсё адразу.

II.

Назаўтра рана на цямочку,
Чуць змрок пачаў радзець у хаце,
Альжбета з падалом сарочкі
Працуе ўжо каля дзіцяці:
Паложыць, возьме, зноў пасадзіць,
Патрэ, патрэ, яшчэ й пагладзіць,
Але нішто не памагае—
Дзіця ўсё плача, ня сьціхае.
„Дай я патру, авось паможа",—
Сказаў мужык тут да Альжбеты,
Падняў падол—„Ну, дай-жа, божа!
Хоць раз паслухаю кабеты —
Шматзнаючай Ганулькі цёткі"...
Дык на ліха падол кароткі —
Відаць, як стрыбалкі, ўсе ногі—
Ну колькі-ж дасьць ён дапамогі?
Два дні дзіця Альжбета цёрла,
Але не памагло нічога—
На трэці дзень яно памёрла.
„Ня плач, Альжбетка, ўсё ад бога,—
Тут стала разважаць Ганулька,—
„Ты не марнуй сябе, зязюлька,
Бо дзела ваша маладое —
Бог дасьць дзіцятка і другое"..

* * *

Дзяцей лячыць вы ўсе, кабеткі,
Вучэцеся ў маей Альжбеткі,
Ды шчэ ў яе старой суседкі,
Як лёд здаровы будуць дзеткі.

## Саюз лішніх.

Пісаў-бы далей пра дэбаты. Але ня варта часу марнаваць. Азірнуўся вакол і бачу навіны. Дый якія яшчэ? О-го!

Аж у трох адразу нашых газэтах высунута на парадак дня культурная праца. Адзін піша, што зашмат у нас палітыкі і замала культурнае працы. Другі таксама. Адзін кажа, што для гэтае працы найлепшым рэцэптам зьяўляецца Таварыства Беларускае Школы, другі — што Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры. Трэці... ды што там трэці? Гэтых трэціх шмат: прасьветы, хаткі, партыі, арганізацыі.

А тымчасам беларускаму пісьменьніку, а найгорай фэльетоністаму, хоць за брытву хапайся, няма для працы поля. Добра яшчэ калі каторы з іх служыць дзе-нібудзь у акцызе або ў якім-нібудзь муніцыпалітэце. Хаця з голаду не памрэ, як той небарака поэт Шыманоўскі ў 1921 годзе. А хто яго ведае гэтага Шыманоўскага? Блiснула, як маланка, кароценькая заметачка ў выходзіўшым тады ў Вільні „Белар. Звоне" і бывай навекі!

Палажэньне нашага пісьменьніка пэўна што горшае за губэрнатарскае. Бо гляньце-ж: калі ён працуе з аднэй партыяй, дык яго крые чым папала іншая партыя. А найгорай, здаецца, тое, што няма ў нас — пісакаў — свае партыі. Праз гэта і грош—наша цана.

Сьвяткуецца, напрыклад, прэсавы юбілей наш.

Запросіны... Уваход з білетамі... І каго толькі там ні запрасіў наш паважаны Нацыянальны Камітэт??

Шмат хто там быў. Ня відаць было толькі жывых вінавайцаў урачыстасьці — рэдактара „Нашае Долі" Дзядзькі Пранука і нашаніўца Піліпавага. Кажуць, быццам іх і не запрашаў ніхто. Магчыма. Бо я, грэшны, прызнаюся, што ніякага запрашэньня не адтрымаў. Ня быў на юбілеі й наш слаўны Монвід.

Нашто мы там? Бяз нас абыйшлося. Наш прадукт творчасьці нямодны нейкі. Кіньма толькі ўсе, колькі нас ёсьць, свае муніцыпальныя, акцызныя, партыйныя службы і што-ж мы будзем?..

Босыя... — недзе сказана...
Люмпэн-пролетары...
Беспартыйныя адзінкі...

Лішнія людзі!.. Так лішнія мы, пакуль што, ў нашым родным нацыянальным руху.

І трэба нам... арганізавацца.

Але як? Мо думаеце ў саюз прафэсіянальны? Куды нам! Людзі засьмяюць...

Саюзы дабіваюцца свайго забастоўкамі і іншым.

А каго-ж мы напалохаем забастоўкай? Дый праца наліхачка такая, што не забастуеш ніяк. Пішаш, хоць і ня друкуешся, бы той Леўчык, што выліў сваю жальбу нядаўна ў „Przegląd. Wil.".

Нам трэба залажыць проста: Саюз Лішніх.

Але-ж во запятая! Дзе арганізацыйны сход зрабіць?

У шынку—нягожа дый дорага.

У хаце аднаго з нас — цесна.

На вакзале — зусім нязручна.

Хіба ўночы на Новы Год пад голым небам у Цялятніку.

Будзе дух Пушкіна, Міцкевіча ці Сыракомлі лётаць над намі і падбухторваць да самаарганізацыі. Зьбяруцца музы ў нязьлічанай колькасьці і, віхруючы ў марозным паветры над нашымі беднымі галовамі, навеюць нам дзіўную калядную байку пра лепшую долю, пра той час, калі ня трэ' будзе падобным да нас рабіць Саюзу Лішніх.

Да працы-ж, браткі!
Да арганізацыі!

**Звончык.**

Аристид Шишка.

# З ашчаднасьцёвых міражаў.

Мудры быў вось той фінансавы мэксыканскі знаўца Кэмэрэр.

Прыехаў быў да Польшчы з жонкай і сынам дый стаў думаць. Паўгода думаў, жонка думала, сынок думаў,—аж урэшце:

— Ашчаджайце! — сказаў — а мне будзьце ласкавы два мільёны за фатыгу...

Два мільёны далі, а ўся Польшча:

— Вось мудры знаўца, вось гэніяльна парадзіў!

— Ашчаджайце! — як з рукава за паўгода сыпнуў!

— Вось мудры!

І паехаў Кэмэрэр, грошы ўзяўшы, пяткамі наківаўшы.

Паплакалі трохі Варшавякі, на згоду насы паўціралі ды ашчаджаць сталі.

Ашчаджаюць.

Сядзіць сабе ў сваім бюры шэф дэпартамэнту міністэрства гандлю — экспэрт дзераўлянага промыслу дый думае.

Усё жыцьцё ня прывык думаць, а цяпер думае.

Бяда — пілсудчыкам летакі (аэропляны) ў Польшчы будаваць захацелася!

— Дзерава, — кажуць,— на крыльля прывезьці трэба.

— Гм, — думае шэф дэпартамэнту, — на летакі бярозавага дзерава трэба... Скуль-жа яго да чорта ўзяць?

Думае, думае, думае...

— Слухайце, — кажа ўрэшце да сэкрэтара,—ці ня ведаеце, дзе гэта праклятая бяроза расьце?

— Бяроза?..

— Але!

— У Афрыцы, здаецца.

— Ды што вы — ў Афрыцы кедры растуць, хлебныя дрэвы, вось што. Але бяроза?.. Не, бяроза недзе йначай, толькі дзе?..

Думае дзераўляны знаўца і шэф дэпартамэнту, думае й сэкрэтар.

Нічога ня выдумалі.

— Пайду да будаўлянага аддзелу запытаюся, — надумаўся сэкрэтар.

Пайшоў.

За паўгадзіны: — Ужо ведаю, пане дырэктар...

— Ну, дзе?

— У Амэрыцы. У Амэрыцы ўсё расьце!

. . . . . . . . . . . . . . .

Напісалі аб тым да Амэрыкі, заказалі бярозавых дашчок на польскія летакі за 600 тысячаў даляраў.

Што гэтак, а ня інакш, сказала, паміж іншым, „Слово Польске“ з аўторку 21-га верасьня г. г. ў сваім эканамічным аддзеле.

. . . . . . . . . . . . . . .

Прыехалі дошкі з-за мора, дзяржаўная каса 600 тысячаў даляраў як лёду выплаціла.

Прыйшла Камісія аглядаць.

Прыгожае дзерава, толькі ў сярэдзіне трошкі спарахнела.

— Гм!—сказаў галава каміссіі.

Аднаму з сяброў прыйшло на думку:

— Гэта якое дзерава?

— Бяроза.

— Дык-жа ж бяроза ў Польшчы расьце!

— Але, запраўды расьце... — сказаў нехта.

— Нашто-ж тагды было спарахнеўшыя дошкі аж з Амэрыкі справаджваць?

— І 600 тысячаў даляраў выкідаць?

У краі гэта ўсё 50 тысячаў даляраў каштавала-б.

— А як-жа...

. . . . . . . . . . . . . . .

Скончыла камісія агляданьне ды пашла на нараду. Радзіла, радзіла — і ўрадзіла:

— Бярозавымі амэрыканскімі дошкамі ўва ўсіх міністэрствах у печы праз зіму паліць!

— А новую бярозу купіць трэба!

. . . . . . . . . . . . . . .

Выплывае цяпер *квэстыя*: — дзе гэтую новую бярозу купляць?

— Як думаеце?..

На маю думку ў Аўстраліі.

**«Зиз».**

## Здрадніца.

Пабожны, ціхі дзядзька наш,
Мужык Альжбецін, быў Тамаш.
І то вядома было ўсім,
Што гары ён ня піў зусім —
Бо даў зарок, ды нат' пакляўся,
Ў царкве Альжбеце, як вянчаўся,
Што„хай я лепш як траўка зьвяну,
Калі на чарку раз хоць гляну;
Калі цябе хоць пальцам крану“.
І што-ж браткі, прызнацца мушу—
Граха ня хоча браць на душу:
Выпадкам з шклянкі хлебане,
А чаркі й ў рукі не вазьме.
Усё-б здаецца йшло нічога
Ды жонка здрадзіла старога.
Й яе судзіць нельга за тое
Вядома—сэрца маладое;
Як цьвет дзяўчук—мяркуйце-ж вы
Ці ёй стары да галавы?
А тут, на грэх, суседаў сын...
(Хлапец ў ваколіцы адзін),
Сустрэлісь раз-другі, а там —
Знане з вас пэўне кожны сам;
Ну, як ад тога утрымацца;
Патросі сталі цалавацца...
Набрыў Тамаш на гэту справу
Ды так і шлёпнуўся на лаву —
Разявіў рот гукнуць—Піліп! —
Дальбо ня мог—язык прыліп;
Бы хто жалезам акаваў.
Ці-ж жарт!—так жонку шанаваў,
Пакляўся, покі будзе жыць —
Ня рушыць пальцам і любіць,
А жонка—во як асьмяяла!
Старога злосьць апанавала;
— Чакай-жа, — кажа, — праўчу
Цябе я, ведзьма, чортаў хвост!
Схапіў гаршчок ды аб памост,
За ім другі, пасьля міскі
Скрышыў, патоўк на чарапкі.
Назаўтра раньнем наш Тамаш
Ўжо пхнецца бедны на кірмаш.
Чаго? — вы хочаце спытаці: —
— Гаршкі, талерачкі купляці.

**Міхась Васілёк.**

# За Нёман, за Нёман і чаго-ж за Нёман?..



Польскія ілюстраваныя часопісі падаюць **Маршалка Пілсудскага, адпачываючы на польскім беразе Нёмна і гледзячы ў даль на процілежны бераг, дзе ўжо цягнецца Ковенская Літва.**

(„Światowid“ № 40).

## НАША ПОШТА.

✕ Дзеля незалежных ад нас абставінаў гэты нумар выйшаў з двохтыднёвым спазьненьнем, але затое ў пабольшаным разьмеры. Маем надзею, што пачынаючы ад 1-га лістапада рэдакцыя будзе мець можнасьць выпускаць сваю часопісь акуратна і як раней два разы ў месяц.

Просім не забывацца прысылаць нам падпісную плату (2 злотых на тры месяцы).

Пры ўсялякіх зносінах з рэдакцыяй просім дакладна пісаць свой адрэс (імя, прозьвішча, бліжэйшая пошта, павет, вёска і валасьць).

✕ **Ягор Зьлізаў-Мёд.** — Нудна нам рабілася, як чыталі Ваш фэльетон аб „доктары Паўлюкевічу“. Пішэце аб чымсь іншым.

✕ **Лебядзкі патомак.** — спачуваем Вам, але з шытка ніводнага жарту ўзяць ня можна, — мала там гумару.

✕ **Янка Лісьневецкі, „Аса“, П. Лазьняк, Плебей, Язэп Бедны, І. Семашкевіч, Янка Гарчак, Пчала, Камар** — вашы вершы, жарты або апавяданьні вельмі слабыя, а калі што і напісана добра, дык негумарыстычнага характару і да „Маланкі“ няпрыгодныя. Чытайце ўважней літэратуру і прыглядайцеся, як іншыя пішуць.

✕ **С. Сьлёзьнік**—жадаем Вам болей гумару да Вашых вершаў.

✕ **Лявон Драч і Т. Бычок** — пішэце на соцыяльныя мотывы і не чапайце „доктара“ (Паўлюкевіча), яго прозьвішча ўсім напрыкрылася.

**С. Зялёны** — Вы пішаце ў сваім вершы:

„*Задумаў я, браткі, жаніцца*“.

Радзім якнайхутчэй, мо' жонка Вас навучыць, як трэба добра вершы пісаць.

✕ **Селянін Яршэвіч і падп. Шэрка Марэк** — Вы ня прыслалі нам сваіх дакладных адрэсоў, а дзеля таго ня можам Вам высылаць „Маланкі“.

✕ **Окшус** — ня радзім Вам вершамі займацца.

Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.